


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

29 чэрвеня 2001 года
№ 26 (323)
Выходзіць па пятніцах

ТУ ПЛЮС

## Навіны рэгіёна

### Чарговы каледж

МАЛАДЗЕЧНА. Дырэктар палітэхнікума **Мікалай Жгун** спадзяецца, што навучальная ўстанова атрымае неўзабаве новы статус і назву каледжа. Гэтаму папярэднічае атэстацыя палітэхнікума, якая пройдзе ў лістападзе. Па яе выніках і будуць рыхтавацца дакументы на новы статус.

Ірына РАБУШКА.

### Ацяпляць рабочых будуць газам

СМАРГОНЬ. Прынцыпова новы спосаб ацяплення рабочых памяшканняў задзейнічае зімой завод аптычнага станкабудавання. У цэху №7 укараняецца сістэма газавага прамянёвага ацяплення. У яго аснове ляжыць прынцып накіраванага патоку энергіі ў інфрачырвоным спектры.

Для ўвядзення новай сістэмы ацяплення трэба правесці знешні і ўнутраны газаправод. Каштарысная вартасць – 160 мільёнаў рублёў. 40 мільёнаў выдзеліла Гродзенскае абласное ўпраўленне па наглядзе за рацыянальным выкарыстаннем паліўна-энергетычных рэсурсаў.

Павел МАКЛЮК.

### Адкрыты помнік Тамары Дудко

МІНСК. Днямі на Маскоўскіх могілках сталіцы адбылася цырымонія адкрыцця помніка былому намесніку Старшыні Савета Рэспублікі **Т. Дудко**.

Яна нарадзілася ў Вілейцы. Пасля школы вучылася ў маладзечанскім палітэхнікуме. Займала розныя кіруючыя пасады. Шмат гадоў узначальвала маладзечанскі піўзавод. Т. Дудко была старшынёй Беларускага саюза жанчын. Менавіта пры яе падтрымцы адкрыты першы ў Беларусі прытулак для жанчын, якія пацярпелі ад насілля, створаныя некалькі фондаў сацыяльнай падтрымкі.

Аддзел інфармацыі «РГ».

### «Спадарожнік» устае з каленяў

МАЛАДЗЕЧНА. 6-7% росту аб'ёму вырабу прамысловых тавараў чакаюць на "Спадарожніку" па выніках работы за паўгоддзе. За час, як прадпрыемствам пачаў кіраваць **Іван Шчаюк**, там не было масавых скарачэнняў. Сярэдняя заробатная плата на прадпрыемстве складае цяпер амаль 80 тысяч. Мадэрнізуюцца старыя тэхналогіі.

Дырэктар прадпрыемства адзначыў, што можна было б набіраць дадаткова каля 40% рабочых на зборку. Але для гэтага не хапае прыкладна 800 мільёнаў рублёў абаротных сродкаў.

Юрый КАРПІЦКІ.

### Стопрацэнтная паспяховасць

АСТРАВЕЦ. Такога паказчыка дабіліся настаўнікі Дайлідскай сярэдняй школы ў выпускным класе. Толькі 2 хлопцы сёлета заканчвалі там школу: **Андрэй Страцэўскі** і **Алег Бравінскі**. Натуральна, што выклікалі хлопцаў на праверку дамашняга задання штодзень. Адсюль і іх веды. У выніку – 2 вучні ў класе і такая ж колькасць залатых медалёў. Вось толькі апошні школьны вальс хлопцам давялося танцаваць з 10-класніцамі.

Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.

### Змяненні ў руху чыгуначнага транспарту



**Электрацягнікі Маладзечна-Мінск будуць ісці:**
**29 чэрвеня** – як па пятніцах. **30 чэрвеня, 7 ліпеня** – як па суботах. **1, 2, 3, 8 ліпеня** – як па нядзелях

**Прыгарадныя дызель-цягнікі будуць ісці:**
**30 чэрвеня, 1, 7 ліпеня** – як па суботах. **2 ліпеня** – як па суботах (акрамя Маладзечна-Параф'янаў 7-19, Маладзечна-Багданаў 7-32). **3 ліпеня** – як па нядзелях.

## Надвор'е на выхадныя

Субота, 30 чэрвеня

**Мінск**
12 – 14°C (уначы)
24 – 25°C (удзень)



**Вільня**
12°C (уначы)
22°C (удзень)



Нядзеля, 1 ліпеня

**Мінск**
14 – 16°C (уначы)
23 – 25°C (удзень)



**Вільня**
10°C (уначы)
20°C (удзень)



# Фальстарт

**АСТРАВЕЦ. Падчас мінулагодняй выбарчай кампаніі многія сцвярджалі, што гэта ёсць рэпетыцыя прэзідэнцкай гонкі. Дні сённяшнія паказваюць: яна пачалася з парушэннямі заканадаўства.**



За што галасуем?

Фота Irex\ProMedia.

Колькі дзён таму ў Астраўцы ўтварылі раённую камісію па выбарах прэзідэнта. У склад яе ўвайшлі прадстаўнікі дзяржаўных устаноў, некаторых кіраўнікі арганізацый, а іншыя вылучаныя па заявах выбаршчыкаў. Яны поўным чынам залежаць ад прэзідэнцкай «вертыкалі» і таму паспрыяць аб'ектыўнасці падчас выбараў наўрад ці змогуць. "Вертыкаль", калі што, адрэагуе і пакажа іхняе месца.

У сваю чаргу, не ўключылі ў камісію прапанаваных жыхароў раёна **Сяргея Буневіча, Івана Жалецкага, Зянона Мекіна, Андрэя Дзенісенку**. Апошняга вылучала прадстаўніком у склад выбарчай камісіі Маладзечанскае аддзяленне БХК. Не ўключылі ў камісію і настаўніка **Мікалая Уласевіча**, хаця на яго быў прадастаўлены пратакол пасяджэння раённай арганізацыі АГП. Відавочна, вертыкаль не палічыла іх "сваімі" людзьмі. Акрамя гэтага, пасяджэнне прэзідыума Астравецкага райсавета дэпутатаў і членаў выканкома адбылося ці не ў звышсакрэтным рэжыме.

Вось што распавёў для "РГ" старшыня Астравецкага раённага клуба выбаршчыкаў ГА "БРКВ" **Іван Крук**.

– 18 чэрвеня я прадпрымаў усе захады, каб прысутнічаць на згаданым пасяджэнні. З 10 да 12 гадзін у выканкоме мяне адпраўлялі з аднаго кабінета ў другі. Ні старшыня савета дэпутатаў **Віталь Лянкевіч**, ні загадчыца аргаддзела **Галіна Лукша** не ведалі, дзе і калі будзе праходзіць пасяджэнне прэзідыума і выканкома па фарміраванні выбарчай камісіі. А 12-й гадзіне па тэлефоне размаўляў са старшынёй выканкома **Адамам Кавальком**. Запытаўся, чаму ў вялікай сакрэтнасці спрабавалі правесці пасяджэнне выканкома па фарміраванні Астравецкай раённай тэрытарыяльнай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта. Чаму не паведамілі пра пачатак пасяджэння?

**Заканчэнне на 4-стар.**

## Экспрэс-апытанне маладзечанцаў

# Чаму 3 ліпеня аб'явілі выхадным днём?



**Вячаслаў Маліноўскі, пенсіянер:**
– Кожны беларус павінен ведаць пра гэты дзень. Я, хоць сам беларус, большую частку жыцця пражыў у Літве. Там усё інакш. Калі б беларусы так сябе любілі, цяпер жылося б не так. Якая дата з'яўляецца сапраўдным днём незалежнасці, я не ведаю, не мая гэта справа. Але ён павінен быць абавязкова.



**Ніна Сянько, пенсіянерка:**
– Я памятаю тую вайну. 3 ліпеня – дзень вызвалення Беларусі. Трэба адзначаць гэты дзень, бо цяперашняя моладзь не ведае, што такое вайна. Лічу, што гэты дзень найлепш падыходзіць да свята Незалежнасці. Я адчуваю, што жыву ў незалежнай краіне, бо на сваю пенсію не магу з'ездзіць да сям'і свайго брата ў Маскву.



**Галіна Клімовіч, навучэнка гандлёва-эканамічнага каледжа:**
– Чула, што гэты дзень выхадны, але не ведаю, чаму. Я жыву ў інтэрнаце і цяпер рыхтуюся да экзаменаў. У нас няма ні радыё, ні тэлевізара, таму атрымліваю мала "пазашкольнай" інфармацыі.
Да 3 ліпеня я здам экзамены і ў гэты дзень буду дома.



**Валерый Вітkоўскі, намеснік генеральнага дырэктара ВА "Камунальнік":**
– Гэта дзень вызвалення Беларусі. Лічу, правільна зрабілі яго выхадным днём, бо павінна захоўвацца памяць пра тыя падзеі. І за тое, каб адзначаць Дзень незалежнасці менавіта 3 ліпеня, бо гэта гістарычная дата.



**Павел Кочан і Мікалай Васілеўскі, навучэнцы ПТВ-135:**
– Не ведаем. Хаця нам усё адно, выхадны гэты дзень ці не, бо цяпер канікулы.

Фотаапытанне падрыхтавалі Ірына РАБУШКА і Юрый КАРПІЦКІ.

# На «Адной зямлі» гаспадарылі ашмянцы

**АШМЯНЫ. У мінулую нядзелю прыгожы старажытны горад, які часам называюць «маленькім Парыжам», прымаў III рэгіянальны фестываль-конкурс выканаўцаў эстраднай песні “Адна зямля”.**

Дырэктар раённага метадычнага цэнтра народнай творчасці **Алена Куст** заўважыла, што фестываль нараджаўся ў цесным супрацоўніцтве Ашмянскага, Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў.

Амаль тры гады таму загадчыкі аддзелаў культуры Маладзечанскага і Валожынскага райвыканкомаў **Аляксандр Рамановіч** і **Сяргей Шаблыка** вырашылі пашырыць межы сваёй работы. Запрасілі да супрацоўніцтва ашмянцаў.

Пры выбары назвы фестывалю дапамагла і “Рэгіянальная газета”. А. Рамановіч гаворыць, што зірнулі на словазлучэнне “Адна зямля” на першай старонцы і адразу патэлефанавалі ў рэдакцыю, каб скарыстаць яго.

Кожны з раёнаў-«першапраходцаў» прымаў фестываль на сваёй зямлі. Год таму Ашмяны атрымалі эстафету ад Валожына і сёлета дастойна падтрымалі марку фестывалю. Асноўныя фінансавыя сродкі выдзелілі райвыканком і Гродзенскае абласное ўпраўленне культуры. Прыватная дыскатэка “Юла” прадаставіла апаратуру і выручыла ў самыя напружаныя моманты.

Фестываль-конкурс праходзіў у гарпарку на канцэртнай пляцоўцы, якая не змясціла ўсіх жадаючых. Ашмянская публіка цёпла вітала кожнага ўдзельніка. Мясцовых спевакоў сустракалі сапраўднымі авацыямі.

У перапынках увагу гледачоў займалі ўдзельнікі дзіцячай эстраднай студыі “Палёт” (СШ №1, Ашмяны), маладзечанскі ансамбль джазавай музыкі “Рэзананс”. Увечары, пакуль журы абмяркоўвала выступленні канкурсантаў, у захапленне прывялі ашмянцаў і гасцей фестывалю арыгінальнымі нумарамі група сучаснай харэаграфіі “ТАД” і танцавальны дуэт “Энігма” з Гродна.

У трох узроставых катэгорыях выступілі 22 спевакі. Прычым, калі вядучыя аб’яўлялі выхад удзельніка, то не згадвалі, адкуль ён. Загадчыца аддзела культуры Ашмянскага райвыканкома **Галіна Балінская** патлумачыла, што гэта знарок. Журы бачыць і чуе толькі выканаўцу і яго выступленне, ніякая “дадатковая” інфармацыя не абцяжарвае ўражанне.

I месца ў малодшай групе заняла **Анастасія Пятроўская** (Валожынскі раён), II – **Вольга Азарынская** з Вілейшчыны, III падзялілі **Ганна Мартынава** (Маладзечанскі раён) і **Андрэй Гайдаровіч** (Ашмянскі раён).

Наймацнейшая па ўзроўні падрыхтоўкі была сярэдняя група. Невыпадкова менавіта з гэтай групы выйшаў і ўладальнік Гран-пры фестывалю.

Першае месца тут у інтэлігентнага **Дзмітрыя Танюкевіча** з Маладзечна. Ён усяго год займаецца вакалам, а вынікі ўражваюць. Многія на фестывалі так і не паверылі, што ў яго толькі год песенай практыкі. II месца журы прысудзіла добра вядомай у рэгіёне віляйчанцы **Алесі Дзяржавец**. За яе плячыма ўдзел у многіх фестывалях (апошні перад “Адной зямлёй”, прыкладам, быў нацыянальны фестываль “Маладзечна-2001”). Адрозніваюць дзяўчыну ад іншых уменне трымацца на сцэне, элегантнасць. III месца ў **Юліі Ліннік** (Валожын).

У старэйшай групе месцы размеркаваліся наступным чынам: I месца – **Аляксандр Сініковіч** (Смаргонскі раён), II – **Сяргей Шкурдзе** (Вілейскі раён), III – **Марына Пазнанская** (Ашмянскі раён). Прыз “Творчая надзея” ад аддзела па справах моладзі Ашмянскага райвыканкома атрымаў **Сяргей Спірыдонаў**.

Гран-пры (тэлевізар “Гарызонт” ад аддзела культуры Ашмянскага райвыканкома) атрымала **Людміла Сінкевіч** (Ашмяны). Яна выконвала песню маладзечанскіх аўтараў - кампазітаркі **А. Атрашкевіч** і паэткі **Т. Трафімавай** “Не забудзь незабудкі” і песню з рэпертуару Ганны Герман “Пісьмо Шапэну”.

Прыз глядацкіх сімпатый (вельмі патрэбную рэч у гаспадарцы – электрадрыль) ад “Рэгіянальнай газеты” атрымаў ашмянец **Іван Валадзько**.

Член журы фестывалю кампазітар Алена Атрашкевіч лічыць, што ўзровень фестывалю не ніжэйшы, чым, прыкладам, год таму ў Валожыне:

*– Там было больш яркіх фігур, а сёлета заўважны рост многіх выканаўцаў. Калі на валожынскай “Адной зямлі” выразна вылучаліся дзве музычныя школы – маладзечанская і вілейская, то цяпер выйшлі з ценю Ашмяны, Валожын і Смаргонь. Некаторыя ўдзельнікі спявалі і на першым, і на другім рэгіянальным фестывалях, але поспеху на іх не дамагліся. Затое ў Ашмянах было відаць, хто дадаў за мінулы год. Гэта, у першую чаргу, Людміла Сінкевіч (Ашмяншчына), Анастасія Пятроўская (Валожыншчына), Алеся Дзяржавец (Вілейшчына).*

*Людмілу вылучае адзінства стылю, прафесійны вакал, далікатнасць, густоўнасць. Яна стварыла пяшчотны дзявочы вобраз (дзяўчына-незабудка). Цяперашняя ўладальніца Гран-пры выканала дзве лірычныя песні, і яны ўдала падкрэслілі індывідуальнасць спявачкі. Удала падабранае адзенне – таксама складаемае поспеху.*

*Анастасія Пятроўская вельмі дадала ў сваім майстэрстве: валоданне голасам, цепльня, пластычнасць, умее паказаць развіццё песні.*

*Амаль бездакорным было выступленне і Алесі Дзяржавец, але адчувалася ў ім нейкая халоднасць, адчужанасць, не было імкнення да кантакту з гледачамі.*

Алена Атрашкевіч заўважыла, што пару чалавек усё ж прыехалі ў Ашмяны «са старым багажом». Наогул жа, яна лічыць: перш за ўсё, павінна ацэньвацца індывідуальнасць выканаўцы і перспектыва на будучае. Чым і кіраваліся ў сваёй рабоце члены журы.

*– Гэта вялікая смеласць – штогод праводзіць такія фестывалі, таму што вельмі няпроста выхаваць, вырасціць юныя таленты ў рамках рэгіёна. І тое, што вось трэці год ужо “Адна зямля” крочыць па рэгіёне, паказвае, які багаты ў нас творчы патэнцыял.*

**Наталля ХАРЫТОНАВА.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Дзмітрый Танюкевіч (Маладзечна) заняў 1 месца ў сярэдняй узроставай катэгорыі.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

**Не пашанцавала юнай абаяльнай Хрысціне Воўчак з Астравеччыны (малодшая ўзроставая група). Ёй давялося адкрываць фестываль. І падвяла яшчэ фанаграма – Хрысціна ў чаканні, пакуль яе «парамантуюць».**



Фота Наталлі ХАРЫТОНАВАЙ.

**Першыя віншаванні з прысуджэннем Гран-пры фестывалю «Адна зямля-2001» прымае Людміла Сінкевіч (Ашмяны).**



**Ашмяначка.**

Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

## Увесь выпуск з медалямі

**МЯДЗЕЛ. У мінулую суботу цэнтральная плошча райцэнтра нагадвала месца дэманстрацыі мод – сюды прыйшлі ў найлепшых строях 118 выпускнікоў трох мядзельскіх школ.**

На гарадскім свяце «Выпускнік XXI стагоддзя» багата было для іх слоў пажаданняў. Кожнаму ўручылі керамічны медаль з надпісам «Выпускнік 2001 года».

Сёлета на Мядзельшчыне сярэднія школы скончылі 354 юнакі і дзяўчыны. Залатыя медаль атрымалі 24 выпускнікі, а сярэбраны – 28.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ЛЕТА

## Харцэры збіраюцца ў Гданьск

АСТРАВЕЦ. Хлопчыкі і дзяўчынкі з харцэрскай арганізацыі пры раённым аддзяленні ГА “Саюз палякаў Беларусі” збіраюцца на адпачынак у Польшчу. Два тыдні яны правядуць паблізу Гданьска.

Акрамя гэтага, яшчэ адна група дзяцей адправіцца ў Грубешув, дзе будзе адпачываць у польскіх сем’ях.

**Мар’ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ ВЫБАРЫ-2001

## Каб выбар быў асэнсаваны

**У пачатку восені пройдуць прэзідэнцкія выбары. “Рэгіянальная газета” будзе рэгулярна даваць інфармацыю пра ход перадвыбарнай кампаніі. Наша мэта – каб выбар чытачоў быў асэнсаваны. Непрадуманае рашэнне, якое нехта дапусціць 9 верасня, можа дорага каштаваць дзяржаве.**

Наша газета ахоплівае тэрыторыю, на якой пражываюць больш за 400 тысяч чалавек. Калі вы жадаеце выказацца на тэму выбараў, мы выслухаем вас. Прапануем паўдзельнічаць у апытаннях і конкурсах. Тэлефануйце, калі бачылі, чулі нешта цікавае для іншых чытачоў. Запрашаем да супрацоўніцтва давераных асоб кандыдатаў або тых, хто лічыць сябе прыхільнікам таго ці іншага кандыдата.

Умовы: пры ўдзеле ў апытанні дадатковых дадзеных ад вас не патрабуецца. У іншых выпадках указвайце сваё імя, прозвішча і кантактны тэлефон.

**Выбары-2001**



**Да выбараў прэзідэнта засталося 72 дні**

### Асноўныя этапы выбарчай кампаніі

**21.06 – 20.07** – збор подпісаў
**6.08 – 15.08** – рэгістрацыя кандыдатаў у прэзідэнты
**15.08** – пачатак перадвыбарнай агітацыі
**4.09** – пачатак датэрміновага галасавання
**8.09** – заканчэнне перадвыбарнай агітацыі
**9.09** – выбары прэзідэнта
да **19.09** – падвядзенне вынікаў
**23.09** – другі тур (калі спатрэбіцца).

**Падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.**

### Апытанне «РГ»

Прапануем адказаць на 2 пытанні, звязаныя з выбарамі.
**1. Ці пойдзеце вы на выбары?** (Варыянты адказаў: так, не, не ведаю).
**2. Колькі прозвішчаў будзе ў бюлетэнях?** (Зарэгістравана 22 ініцыятыўныя групы. Вам трэба назваць лічбу ад 1 да 22).

Адказы прымаем па тэлефоне 69667 да 3 жніўня.

### Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, чэрвень – ліпень**

29 чэрвеня – 1 ліпеня **“Самнасам з забойцай”**, ЗША, трылер 17-10 (29 чэрвеня), 15-00, 17-10 (30 чэрвеня – 1 ліпеня)
29 чэрвеня – 1 ліпеня **“Міс кангеніяльнасць”**, ЗША, камедыйны баявік 19-20, 22-00
2–8 **“Тыгр, што крадзецца, дракон, што затаіўся”**, ЗША-Кітай-Тайвань (на відэасістэме) 14-30, 19-30, 22-00
**“Мілашка”**, ЗША, рамантычная камедыя (на відэасістэме) 17-00

### Для дзяцей

29 – **“Паддашкавыя анёлы”** 13-00
30 – **“Нязнайка на Месяцы”** 13-00 (мульт.)
1 – **“Нязнайка на Месяцы”** (на відэасістэме), мульт. 13-00
2 – **“Эйс Вентура-2. Покліч прыроды”**, ЗША 11-00
3 – **“Магія чорная і белая”**, Расія 11-00
4 – **“Варвара-краса – доўгая каса”**, Расія 11-00
5 – **“Дзяцінства Бэмбі”**, Расія 11-00

■ ІМЯНІНЫ

**29 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Ціхана.
**Каталіцкія**: Паўла, Пятра.
**30 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Савелія.
**Каталіцкія**: Люцыны, Эміліі.
**2 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Засімы, Івана.
**Каталіцкія**: Марыі, Урбана.
**3 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Апанаса, Глеба, Гурыя, Мяфодзія.
**Каталіцкія**: Анатоля, Тамаша.
**4 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Юлія, Юльяна.
**Каталіцкія**: Альжбеты, Тодара.
**5 ліпеня**
**Праваслаўныя**: Ульяны, Галакціёна, Зянона, Яўсея.
**Каталіцкія**: Караліны, Антона.

■ ДНІ

3 ліпеня – **Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь.**
5 ліпеня – **100 год з дня нараджэння У. Вараксіна** (1901–1980), беларускага архітэктара.
**75 год з дня нараджэння** (1926) **М. Лазарука**, беларускага літаратуразнаўцы, педагога.

## Юбілей аграпрамтэхнікі

**АСТРАВЕЦ. Мінулым тыднем калектыў мясцовай аграпрамтэхнікі адзначыў 40 год з дня заснавання арганізацыі.**

Кожны работнік у якасці падарунку атрымаў прадуктаў на дзесяць тысяч рублёў. Пенсіянеры, што працавалі ў аграпрамтэхніцы, і рабочыя, якія працуюць не больш за тры гады, атрымалі харчоў на шэсць тысяч рублёў.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

## Работы на Доме культуры

**МАЛАДЗЕЧНА. Ад пачатку ліпеня да работ на Доме культуры падключацца тынкоўшчыкі. Яны будуць працаваць на "клубнай" частцы Дома, за імі – вонкавыя і ўнутраныя работы.**

Па стане на сераду зроблена 80% даху. Умацоўваюць сцены, працуюць з каналізацыяй. На будоўлі занятыя каля 40 рабочых.

Прараб **Іван Русак** гаворыць, што ад пачатку года асвоена 132 мільёны рублёў. Да канца года, па яго меркаванні, цяжка будзе ўвесці ў строй хоць маленькую частку Дома культуры. Хаця многае залежыць ад выканання графіка фінансавання.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Спажыўцы раёна будуць беспрытульныя

**МАЛАДЗЕЧНА. Да 10 ліпеня Маладзечанская арганізацыя абароны спажыўцоў зменіць назву.**

Гэта абумоўлена зменамі ў статуце грамадскай арганізацыі "Беларуская арганізацыя абароны спажыўцоў". Маладзечанская арганізацыя пасля рэгістрацыі ў гарвыканкоме дадасць у сваю назву слова "гарадская".

Новаўвядзенне абмяжуе сферу дзейнасці арганізацыі. Калі да гэтага яна абслугоўвала ўвесь горад і раён, то цяпер раёнам павінна займацца Маладзечанская раённая арганізацыя аброны спажыўцоў. Якой на цяперашні момант не існуе. Атрымліваецца, што некаторы час жыхары раёна не будуць мець сваёй грамадскай арганізацыі па абароне спажыўцоў.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## «Птушыны рынак» у Маладзечне

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета па вуліцы Лібава-Роменская адкрыецца рынак райспажыўтаварыства.**

Яго можна будзе назваць "Птушыны", бо там будуць прадаваць птушак і жывёл, якія месяцца пакуль на калгасным рынку. Цяпер ідзе добраўпарадкаванне пляцоўкі пад новы рынак.

Па ацэнцы дырэктара калгаснага рынку **Аляксея Уварава**, на пляцоўцы выканана каля 30% будаўнічых работ.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Маладзечна, Цэнтральная плошча. Падчас кірмашу. Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.

# Валожынцаў калёсы падвялі

**МАЛАДЗЕЧНА. Другі год запар горад ладзіць абласны кірмаш. Традыцыйна высокую ацэнку яго арганізацыі даў старшыня Мінаблвыканкома Мікалай Дамашкевіч.**

Дэлегацыі прыслалі ўсе раёны Мінскай вобласці. Палаткі, латкі, імправізаваныя крамкі з'явіліся ў цэнтры горада яшчэ ў пятніцу ўвечары.

Канцэрты, выстаўкі, спартыўныя мерапрыемствы ладзіліся ці не па ўсім горадзе. Адметна, што на час правядзення кірмашу маладзечанцам заставалася сцэна «ад фестывалю «Маладзечна-2001». Выступленні артыстаў на ёй выглядалі вельмі прывабна і значна.

Паралельна гаспадары і госці выступалі на розных пляцоўках, што давала магчымасць кожнаму абраць артыстаў па душы. Застаецца толькі шкадаваць, што з-за паломкі аўтобуса не даехалі валожынцы.

Шмат было выставак. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва і падзелкі, вырабы раменікаў і народных майстроў, птушкі, кнігі, работы самадзейных мастакоў.

Экспрэс-спаборніцтвы правялі футбалісты, гарадошнікі, футбалісты, з пакальнай праграмай былі заўважаныя гімнасты і коннікі.

Горад, безумоўна, выйграў ад правядзення свята. Маладзечна ў чарговы раз атрымала магчымасць падчысціць і аздобіць Цэнтральную плошчу, прылеглыя вуліцы.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**



За дні нацыянальнага песеннага фестывалю, чарговага абласнога кірмашу Маладзечна трывала прапахла шашлыкамі.

# Пажарнай аварыйна-выратавальнай службе 5 год

**Аварыйна-выратавальная служба створаная ў 1996 годзе, і 1 ліпеня ёй спаўняецца 5 год. Пра становішча і дзейнасць ПАВС расказвае намеснік начальніка часці капітан Ігар СКАДОРВА.**

– Да 2000 года мы працавалі самастойна. Потым нас аб'ядналі з пажарнай часцю, і мы ўжо другі год выконваем сваю справу разам. Але і цяпер мы – своеасаблівая медыцынская дапамога.

**– Як служба выратавання-911?**

– Так, менавіта ў гэтым сэнсе. Выратаванне людзей у розных незвычайных сітуацыях – пажарах, аварыях і г. д. – наш абавязак. Прычым, зона нашай "творчасці" – цэлы рэгіён, ад Валожына да Вілейкі, ад Астраўца да Мядзела. А пажарная служба працуе толькі на сваіх участках. Прыкладам, толькі ў Маладзечне ўжо 4 пажарныя часці. Мы ж – адныя на рэгіён.

**– Тэхніка ў вас таксама адпавядае першым?**

– З тэхнікай праблем няма. Мы атрымалі з Германіі некалькі добрых "Мерседэсаў". Крыху дапрацавалі, прыстасавалі іх да нашых умоў. Маем хімічную, аварыйна-выратавальныя машыны. Рыхтуем аўтамабіль хуткага рэагавання.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**ДАВЕДКА. Ад пачатку года ПАВС больш за 200 разоў ездзіла на выклікі, з іх 15 – на пажары, 19 – на аварыі, 10 было несапраўдных. Выратавана 12 чалавек, загінула 10. У часці працуе 48 чалавек, з 13 складаецца змена. Навучальныя цэнтры – Заслаўе, Светлая Рошча (Барысаўскі раён).**

## Курсы валют НБ РБ

| | 21 чэрвеня | 28 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 1372,00 руб. | 1378,00 руб. |
| Нямецкая марка | 598,97 руб. | 608,99 руб. |
| Літ | 343,10 руб. | 344,46 руб. |
| Расійскі рубель | 47,10 руб. | 47,31 руб. |
| Злоты | 343,04 руб. | 348,64 руб. |
| ЕЎРА | 1171,48 руб. | 1191,07 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1400 – 1410 руб. | 1400 – 1420 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 20.06 | 27.06 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2280 | 2100 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7670 | 6280 |
| Сасіскі, 1 кг | 2550 | 2340 |
| Селядзец, 1 кг | 1650 | 1650 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 440 | 440 |
| Цукар, 1 кг | 585 | 615 |
| Алей, 1 л | 860 | 860 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 680 |
| Маянэз, 200 г | 250 | 250 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 450 | 450 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 370 | 360 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 600 | 600 |
| Капуста, 1 кг | 650 | 350 |
| Агуркі, 1 кг | 600 | 700 |
| Лімоны, 1 кг | 1400 | 1700 |
| Апельсіны, 1 кг | 1500 | 1800 |
| Чарэшня, 1 кг | 2000 | 1300 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 900 |
| Масла, 1 кг | 2200 | 2200 |
| Тварог, 1 кг | 700 | 600 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 900 |
| Бульба, вялікае вядро | 700 | 900 |
| Бульба маладая, 1 кг | 800 | 700 |
| Морква, 1 кг | 1450 | 1400 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 200 | 80 |
| Радыс, 1 пучок | 200 | 100 |
| Кроп, 1 пучок | 50 | 80 |
| Клубніцы, 1 кг | 1400 | 1300 |
| Чарніцы, 1 кг | | 1000 |
| Чорныя парэчкі, 1 кг | | 1000 |

## Расклад руху пасажырскіх цягнікоў па станцыі Маладзечна з 10 чэрвеня 2001 г.

| Маршрут | Маладзечна прыб. | Маладзечна адпр. | прыб. на канц. ст. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|
| Гомель–Рыга | 0-25 | 0-49 | 12-40 | цот. |
| Унеча–Гродна | 0-38 | 0-42 | 5-56 | няцот. |
| Віцебск–Гродна | 0-38 | 0-42 | 5-56 | цот. |
| Масква–Калінінград | 0-48 | 0-53 | 10-40 | штодз. |
| Калінінград–Харкаў | 1-16 | 1-20 | 21-35 | няцот. |
| Калінінград–Масква | 2-13 | 2-17 | 16-23 | па 6.09 штодз. |
| Масква–Гродна | 3-09 | 3-12 | 8-44 | штодз. |
| С.-Пецярбург–Калінінград | 3-20 | 3-35 | 13-30 | з 14.06 па 26.06 цот.; з 27.06 па 8.09 штодз. |
| Масква–Каўнас | 4-02 | 4-07 | 9-03 | штодз. |
| Калінінград–Гомель | 4-25 | 4-28 | 11-11 | цотн. |
| Рыга–Гомель | 5-22 | 5-57 | 13-21 | няцот. |
| Чэлябінск–Калінінград | 5-38 | 5-41 | 15-28 | 12, 20, 29.06; 9, 17, 25.07; 3, 11, 20, 28.08; 5, 14.09 |
| Масква–Калінінград | 6-27 | 6-32 | 16-41 | з 12.06 па 7.09 штодз. |
| Полацк–Мінск | 6-20 | 6-46 | 8-33 | штодз. |
| Мінск–Вільня | 7-52 | 7-57 | 9-45 | па 2, 3, 4, 5, 6, 7 дні тыдня |
| Вільня–Мінск | 10-05 | 10-08 | 11-29 | штодз. |
| Гродна–Мінск | 10-43 | 10-46 | 11-53 | 5, 6, 7, 1 дні тыдня |
| Калінінград–С.-Пецярбург | 10-55 | 11-10 | 8-00 | з 12.06 па 24.06 цот. |
| Мінск–Гродна | 17-34 | 17-37 | 21-45 | 5, 6, 7 дні тыдня |
| Мінск–Ліда | 17-34 | 17-37 | 19-30 | панядз. |
| Калінінград–Чэлябінск | 18-09 | 18-14 | 6-12 | 6, 14, 23.06; 3, 11, 19, 28.07; 5, 14, 22, 30.08; 8.09 |
| Мінск–Полацк | 18-28 | 18-55 | 23-26 | штодз. |
| Мінск–Вільня | 19-24 | 19-27 | 21-10 | штодз. |
| Вільня–Мінск | 19-35 | 19-42 | 21-08 | па 2, 3, 4, 5, 6, 7 дні тыдня |
| Калінінград–Масква | 20-10 | 20-14 | 9-27 | штодз. |
| Каўнас–Масква | 20-54 | 20-58 | 9-34 | штодз. |
| Гродна–Масква | 21-34 | 21-43 | 10-55 | штодз. |
| Харкаў–Калінінград | 21-14 | 21-18 | 7-47 | няцот. |
| Гродна–Унеча | 21-35 | 21-43 | 11-40 | няцот. |
| Гродна–Віцебск | 21-35 | 21-43 | 5-00 | цот. |
| Гродна–Масква | 22-15 | 22-20 | 11-00 | штодз. |
| Гомель–Калінінград | 23-38 | 23-45 | 9-31 | цот. |

■ РОДНАЯ МОВА

# Ліст да старшыні

**МАЛАДЗЕЧНА. Група вядомых у горадзе людзей звярнулася з адкрытым лістом да старшыні гарвыканкома Мікалая Чурсіна.**

У лісце адзначаецца, што беларускамоўныя шыльды паціху замяняюцца на рускамоўныя. 6 год як у школах доля класаў з беларускай мовай навучання памяншаецца (з 59% у 1995 г. да 32% у 1999 г.). Падобнае назіраецца і ў дзіцячых садках.

Гарадская арганізацыя ТБМ імя Францішка Скарыны не мае офіса. Калі яна арандуе памяшканне, то праз кароткі час у арэндадаўцы знаходзяцца прычыны для высялення. Летась так было тройчы.

"Падпісанты" просяць улады прыняць неабходныя меры для паляпшэння сітуацыі і аказаць садзеянне ў выдзяленні памяшкання для офіса гарадскога аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны.

**С ітуацыю мы папрасілі пракаментаваць дырэктара маладзечанскай школы-інтэрната №1, былога старшыню Рады ТБМ Маладзечанскага раёна Барыса Бароўскага.**

– Ліст, на мой погляд, напісаны правільна. І я падпісаўся б пад ім, каб прапанавалі. Трэба больш надаваць увагі беларускай мове. Але цяперашняе кіраўніцтва гарадской і раённай Радаў амаль нічога не робіць. Кіраваць у Таварыстве мусяць людзі дарослыя, з жыццёвым досведам. На юнацкім максімалізме далёка не паедзеш. Трэба быць у кантакце з уладамі, асабліва з аддзеламі культуры. Каб сам кіраўнік ТБМ быў прызнаны ўладамі, каб у ім бачылі лідэра. У становішчы, у якім апынулася ТБМ, вінаватыя, перш за ўсё, кіраўнікі Таварыства. Трэба самім мець пісьменнасць, адукаванасць, работу. Быць у душы беларусам. Уладай трэба ўмець карыстацца. Для кіравання ў ТБМ найлепш падыходзіць, лічу, **Альберт Аўчыннікаў**. У ў яго ёсць ўсе неабходныя якасці.

**На мінулым тыдні ў гарвыканкоме прайшла нарада, прысвечаная праблемам, паднятым у «адкрытым лісце». Ад ТБМ прыйшоў толькі старшыня гарадской рады Сяргей Юркевіч.**

Загадчык гараддзела адукацыі **Уладзімір Ляговіч** падкрэсліў, што ён стрымлівае адкрыццё рускамоўных класаў. Сітуацыя ў горадзе пачала паляпшацца: каля 40% класаў з беларускай мовай навучання. У параўнанні з Барысавам, Слуцкам, Жодзінам гэта някепска. Праблема ў вышэйшай школе, дзе навучанне вядзецца амаль усюды на рускай мове.

А што зрабіла ТБМ для паляпшэння сітуацыі з беларускай мовай у горадзе?

С. Юркевіч:

– Мы працуем толькі год. Паспелі правесці каля 10 шоу-віктарын па беларушчыне для школ, ПТВ - у забаўляльнай форме з прызамі. У сваім памяшканні будзем працаваць больш мэтанакіравана.

Выканком абяцаў падтрымку. Намесніца старшыні **Данілея Жук** лічыць, што трэба працаваць разам.

– Ставіць пытанні і мы можам, – заўважыла яна. – Але каму? Трэба дзейнічаць.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

# Падкова з Даўгінава – Барадуліну

**У суботу ў Пухавіцкім раёне ў музеі "Дудуткі" прайшоў чарговы "Фэст старасвецкай культуры". Адзначыўся там і наш рэгіён.**

У рамках фестывалю прайшло Першае рэспубліканскае свята кавальства "Залатая падкова". Майстар-метадыст дома рамёстваў Даўгінава **Аляксандр Піразеў** даўно займаецца кавальствам. Улюбёны накірунак работы – зброя. А тут, у Дудутках, менавіта падкова з-пад молата Аляксандра Піразева прыглянулася патрыярху паэтычнага слова **Рыгору Барадуліну**. Паэт павез у сталіцу падкову на шчасце, а з Аляксандрам Піразевым у Даўгінава паехалі прызы, якімі адзначыла яго работы журы.

Госці Дудутак, а наведваюцца яны ў музей штодня, заўсёды могуць пазнаёміцца з майстэрствам івянецкага ганчара **Антона Пракаповіча**. Дзядзька Антось калісьці працаваў на фабрыцы мастацкай керамікі ў Івянцы, а цяпер апавядае пра сваё ўмельства гасцям Дудутак. І не проста паказвае глякі ды гарлачы, а і дэманструе пераўтварэнне сырой гліны (з-пад Радашковічаў!) у рэальныя, прыдатныя да ўжытку рэчы. На пытанне, калі ж з майстрам можна сустрэцца ў яго дома адказвае:

– У Івянцы бываю не часцей раза на месяц. Астатні час працую тут, у Дудутках.

Фэсты старасвецкай культуры сталі традыцыйнымі. Сёлетні быў сёмы. Ідэя стварэння музея рамёстваў пад вёскай Дудзічы ў былым панскім маёнтку нарадзілася, дзякуючы пісьменніку і журналісту **Яўгену Будзінасу**. За гэты час музей стаў у Беларусі культурнай з'явай. І кожны год нешта сваё дадаюць у традыцыі і гісторыю Дудутак нашы землякі.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**



**Жэня Абухоўскі быў адным з самых уважлівых гледачоў. Момант на сцэнічнай пляцоўцы.**



**Сямён Домаш выкаваў цвік у хрыбет таталітарызму.**



**Антон Пракаповіч – ганчар з Івянца.**



**Рыгор Барадулін, вядома, будзе самым шчаслівым чалавекам. Падкову на шчасце падарыў паэту даўгінаўскі майстра Аляксандр Піразеў.**

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

■ КАЛОНКА З ПРАЦЯГАМ

# Фантастычнае падарожжа з Рыбаком Гатаўскім

**Працяг.**

Пакуль з прыпынку дайшлі да "Журавушкі", дзядуля Рыгор расказаў пра падзеі свайго маленства.

– Да маёй сястры заляцаўся малады чалавек. Зацікавіла мяне, малога, пра што размаўляюць дарослыя. Кавалер кляўся ў вечным каханні: "Дзеля цябе, дарагая, гатовы на любы подзвіг, у агонь ці ваду ўскочу, каб выратаваць чалавека, у бойку з любым хуліганам уступлю, каб не даць цябе ў крыўду". Хвалько сыпаў словамі прызнання ў вялікім і шчырым каханні. Вырашыў я праверыць правільнасць сказанага, чысціню намераў будучага сваяка. У кустах непрыкметна распрануўся, адплыў ад берага, паплаваў, а потым узняў крык: "Ратуйце, ратуйце!". На беразе пачулі сястра і яе кавалер. Кавалер крыкнуў: "Чакай, зараз разуюся і распрануся". Інакш дзейнічала сястра, яна адразу ж кінулася ў вопратцы ў ваду ратаваць тапельца – а я адплываю ад яе. Сястра пазнала і крыкнула: "Брацік, ты не тонеш?" Ёй адказаў са смехам: "А што я, дурань, тапіцца, як твой кавалер". І адплываю далей. Сястра прыгразілася расказаць бацькам, але гэтага потым не зрабіла. Пакуль сястра дабіралася да берага, кавалер збег, бо зрабілася яму сорамна. Сястра радавалася, што дапамог ёй распазнаць таго, хто хацеў стаць яе мужам.

Каля санаторыя "Журавінка" адпачываючыя ходзяць парамі, такія ветлівыя, усміхаюцца адзін аднаму, мужчыны частуюць жанчын шакаладам, штосьці шэпчуць на вуха адзін аднаму. Чуюцца жарты:

– Саша, ты летась у санаторыі быў з кімсьці...

– Маеш на ўвазе Янінку. Яна стала маёй жонкай.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

**Заканчэнне будзе.**

■ ВЫБАРЫ

# Фальстарт

**Пачатак на 1-й стар.**

Кавалька прапанаваў звярнуцца да Галіны Лукшы. Тая папрасіла пачакаць хвілін 10–15, а сама пайшла да Кавалькі. Пасля гэтага мяне запрасілі ў кабінет старшыні, а там ужо знаходзіліся ўсе члены выканкома. Я сказаў, што парушаецца канстытуцыя і выбарчы кодэкс, бо мне было адмоўлена прысутнічаць на пасяджэнні. Аднак у даволі цынічнай форме мне адмовілі і ў прысутнасці на камісіі. Хаця па законе яны не мелі на падобнае аніякіх правоў.

Такім чынам, прэзідэнцкая гонка пачалася з парушэннямі. Іван Крук хоча дамагацца адказаў ў пракуратуры. Прынамсі, туды ўжо накіраваная заява, дзе выкладзеныя ўсе факты парушэння заканадаўства.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ

# Погляд на гісторыю апошняй вайны

**Працяг.**

Але ніхто не падтрымлівае прыхільніка культурнага народу, бо яшчэ многія помняць "культуру" немцаў па 1915 і 1918 гадах.

Спачатку – нічога страшнага быццам бы. Пад вечар спыніцца часць на адпачынак, глядзіш: машыны састаўленыя акуратнымі радочкамі, замаскіраваныя сеткамі. Дыміцца кухня. Жаўнеры, за выключэннем варты, бегаюць у трусах – ганяюць футбольны мяч або гуляюць у валейбол. Хтосьці мыецца, голіцца, кагосьці падстрыгаюць. А маладых жаўнераў з вінтоўкамі павялі ў бок пагорка пастраляць па мішэнях. Некаторыя сноўдаюцца па хатах: "Матка, яйка, млека, шпэк!"

Сігнал – і ўсе з плоскімі кацялкамі выстраіліся перад кухняй вячэраць. О! Сапраўды, кормяць іх, як на ўбой.

Потым да нас у вёску пастаянна ўрываліся з трэскам групы матацыклістаў. Абходзяць хаты – звычайнае ўжо "матка, яйка, млека, шпэк..." У мужчын зрываюць з галоў шапкі. Аднойчы сарвалі шапку з галавы дзядзькі Пётры, ды як гаркне адзін з іх:

– Рус зольдат! Гінаус (прэч)!

Схапілі лапату і павалаклі дзядзьку за ток на ямы.

– Дзядзька Міхалюк! – крычу. – Петруся павялі...

– Ведаю! – адказаў той, дагнаў немцаў ды растлумачыў, што ніякі ён не "зольдат", а "брандмайстар" (пажарны).

О, Міхаіл Іванавіч свабодна валодаў нямецкай мовай: за 6 гадоў палону вывучыў яе дасканала, выручаў часта. А жыццё выратаванага было ацэнена ў два дзесяткі яек.

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

**Працяг будзе.**

